ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 15 (2469) 11 красавіка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## "Я ХАЧУ ВЫКАНАЦЬ ДАДЗЕНЫЯ НАРОДУ АБЯЦАННІ"

### ІНТЭРВ'Ю ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ КАРЭСПАНДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ РЭДАКЦЫІ РАДЫЁ "СВАБОДА" ГАЛІНЕ АЙЗЕНШТАТ

**-- Аляксандр Лукашэнка як асоба мае адну асаблівасць: ён гаворыць пра сябе і свае правы, кажучы па-руску: "в третьем лице". Калі вы не супраць, скарыстаем яе ў нашай размове, і маё першае пытанне такое: як бы ацаніў Аляксандр Лукашэнка -- радавы грамадзянін Рэспублікі Беларусь дзейнасць Аляксандра Лукашэнкі-Прэзідэнта!**

-- Станоўча.

**-- Можа, крыху расшыфруеце!**

-- Галіна Іосіфаўна, я нікому нічога не павінен, па-першае... Я за чужы кошт, і гэта вам добра вядома, як чалавеку, які мяне ведае не толькі ў маю бытнасць дэпутатам, ніколі не жыў. Я праводжу сваю палітыку ў інтарэсах нашага народа, параіўшыся з ім.

Возьмем тры пункты маёй перадвыбарнай праграмы. Першы -- барацьба з інфляцыяй і падаўленне яе. Магу праінфармаваць, што інфляцыя на сённяшні дзень складае адзін працэнт. Я дапускаю -- два. Першы пункт выкананы.

Другі пункт маёй перадвыбарнай праграмы -- саюз з Расіяй. Гэта тое, што я сёння раблю.

Трэці пункт -- татальная барацьба з карупцыяй. Палавіна былых чыноўнікаў страціла свае пасады. Кампанейшчына і спешка тут не патрэбны, каб не пацярпелі прыстойныя людзі. Але наколькі я магу сёння змагацца з карупцыяй (а грамадства ў нас карумпіравана парадкам), я гэта раблю.

Вось тры моманты, за якія народ мяне падтрымаў. Рэферэндум яшчэ раз пацвердзіў -- ускосна -- мае паўнамоцтвы. Скажыце, як я павінен у такой сітуацыі дзейнічаць, калі народ гаворыць: "Рабі гэтак, не інакш"? Таму я як грама... ін ацэньваю дзеянні Прэзідэнта Лукашэнкі станоўча. Пры гэтым я далёкі ад таго, што быў бездакорны ва ўсіх сваіх учынках, не дапускаў памылкі і г. ...а-пэўна, мне, маладому па... ..., і наогул як чалавеку ўласціва памыляцца, і я, відаць, дапускаў недзе нейкія памылкі. Але ў стратэгічным плане, па-мойму, не. І калі непрадузята ставіцца да мяне, дык можна сказаць, што ў актыў Прэзідэнту запісаць можна больш, чым у пасіў.

**-- Чым патлумачыць Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, што менавіта ён хоча выканаць ролю Багдана Хмяльніцкага, хаця яна больш бы, здаецца, пасавала Леаніду Кучме, улічваючы паходжанне Хмяльніцкага!**

-- Вы вельмі вобразна задалі пытанне, і вам гэта робіць гонар. Я хацеў бы выканаць толькі тую ролю, якая мне адведзена Усявышнім, хоць я выхаваны атэістам. Мабыць, лёс мой такі... Я хацеў бы выканаць тую ролю, якая мне адведзена. Я гавару вам пра гэта выключна шчыра. Калі мне, дапусцім, адведзена ў гэтым жыцці адыграць ролю стваральніка, а не разбуральніка, я быў бы шчаслівы. Я хацеў бы выканаць сваю ролю, ролю Лукашэнкі, прадстаўніка беларускага народа, які заўсёды быў за тое, каб тут, на нашай зямлі, усё было мірна і ўсе народы жылі, як у родным сваім доме, незалежна ад іх паходжання, веравызнання і г.д. і да т.п. Таму, калі вы мелі на ўвазе, задаючы гэтае пытанне, ці імкнецца Лукашэнка адыграць ролю аб'яднальніка, то я скажу: так, я ставіў і стаўлю перад сабой гэтую мэту. Але я далёкі ад таго, каб узяць на сябе больш, чым я сёння здольны і павінны ўзяць. Тут я самакрытычны і не прэтэндую на большае.

**-- Аляксандр Лукашэнка -- першы ўсенародна абраны Прэзідэнт незалежнай Беларусі, і, відаць, яму неабыякава, якім ён увойдзе ў яе гісторыю!**

-- Гэта, напэўна, сапраўды неабыякава не толькі для мяне, але і для вас як грамадзяніна Беларусі. Таму што гэта сапраўды першы Прэзідэнт.

(Працяг на 4-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**"Міс Віцебск-96" — Ірына ЦІУНЧЫК, вучаніца 11 класа сярэдняй школы. Яна будзе прадстаўляць Віцебск на міжнародным конкурсе "Міс Славянка".**

ПАЗІЦЫЯ ЭКС-СПІКЕРА ПАРЛАМЕНТА МЕЧЫСЛАВА ГРЫБА:

## "Я — ПРЫХІЛЬНІК СУВЕРЭНІТЭТУ І КАНСТЫТУЦЫІ"

**Падзяліцца ўражаннямі пра пачатак работы новага беларускага парламента мы папрасілі чалавека аўтарытэтнага, вопытнага палітыка, былога старшыню Вярхоўнага Савета 12-га склікання, дэпутата цяперашняга парламента Мечыслава ГРЫБА. Гутарка з Мечыславам Іванавічам адбылася адразу, як ён вярнуўся з пасяджэння асамблеі па стварэнню Таварыства беларускай школы імя Браніслава Тарашкевіча, а таму напачатку я пацікавілася, чым прадыктавана такая ўвага да падзеі, па сённяшнім часе не вельмі вітаемай уладамі.**

-- Я -- прыхільнік беларускай мовы, культуры, звычаяў, таму што стаю за суверэнітэт і незалежнасць Беларусі як краіны, а беларусаў як нацыі. Тым не менш, не магу пагадзіцца, калі тут нешта робіцца наскокам альбо пачынаюцца нейкія экстраардынарныя дзеянні. Трэба рухацца паступова, павольна, але вывєрана і дакладна. Узгадваю падыходы, якія склаліся ў мінулага Вярхоўнага Савета. Закон аб беларускай мове, які быў прыняты, сам па сабе вельмі добры, але ў яго ажыццяўленні, з майго пункту гледжання, зроблены шэраг памылак. У выніку, калі я прыехаў у сваю выбарчую акругу -- Дзятлаўскі раён, там на той момант ужо засталася толькі адна руская школа — у пасёлку, дзе знаходзілася расійская ваенная дывізія. Улічваючы рэальны стан спраў, тое, што мы пакуль маем вялізны працэнт рускамоўнага насельніцтва, гэта не магло не выклікаць незадаволенасці некаторых бацькоў. Але прайшоў леташні майскі рэферэндум, і стрэлка вагаў рэзка рушыла ў процілеглы бок: цяпер ужо амаль гвалтоўна сталі зачыняцца беларускія класы, цэлыя школы, што, зразумела, таксама недапушчальна.

*-- Мечыслаў Іванавіч, нагадайце, калі ласка, за які тэрмін павінен быць цалкам уведзены ў дзеянне Закон аб мовах.*

-- Да 2000-га года. Але пры цяперашніх умовах сумняваюся, што ён будзе выкананы ў адведзены тэрмін. Тым не менш, сёння -- так, а заўтра абставіны могуць і змяніцца...

*-- Тады давайце пяройдзем да грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне. Зразумела, вялікі ўплыў на яе павінен рабіць парламент, але толькі ў выпадку, калі будзе мець уласную пазіцыю, а не выконваць ролю марыянеткі. Разам з тым даводзіцца ўжо чуць, як новы Вярхоўны Савет называюць "кішэнным".*

-- За такі кароткі тэрмін, які працуе новы Вярхоўны Савет, цяжка чакаць, каб ён вылучыўся нейкім асобым тварам, вызначыўся па шматлікіх пазіцыях. Трэба назапасіць неабходныя веды, мець падрыхтоўку, каб працаваць паўнавартасна. А гэта справа не некалькіх дзён. Адно хацеў бы зазначыць: жаданне працаваць у новых парламентарыяў ёсць. Нешта -- атрымліваецца, іншае -- пакуль не.

Акрамя таго ў Вярхоўным Савеце трынаццатага склікання ажыццёўлены новыя падыходы ў арганізацыі работы -- фракцыйны падзел.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ТОЛЬКІ Ў САЮЗ...




**У нядзелю, 31 сакавіка, ля Палаца спорту на праспекце Машэрава ў Мінску адбыўся мітынг у падтрымку палітыкі Прэзідэнта на яднанне Беларусі з Расіяй. На мітынгу былі не толькі жыхары сталіцы -- на аўтобусах прывезлі ў Мінск людзей з самых аддаленых раёнаў, такіх, як Столін. Прысутнічалі члены ўрада і адміністрацыі Прэзідэнта. Лейтматыў мітынга -- толькі ў саюзе з Расіяй магчымы росквіт нашай суверэннай дзяржавы.**

**Па афіцыйных даных, на мітынгу было каля 30 тысяч чалавек. Паводле звестак неафіцыйнай прэсы, мітынг каштаваў дзяржаве больш за 2 мільярды рублёў.**

**НА ЗДЫМКУ: мітынг у падтрымку Прэзідэнта.**

З МАСКВЫ



**29 сакавіка ў Маскве адбылося падпісанне Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь, Рэспублікай Казахстан, Кіргізскай Рэспублікай і Расійскай Федэрацыяй аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай галінах. Старшынёй Міждзяржаўна[illegible] савета ў рамках гэтага дагавора зацверджаны [illegible]сандр Лукашэнка.**

**НА ЗДЫМКУ: у Георгіеўскай зале Крамля ў час падпісання дагавора.**

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

## БУДЗЕМ ЖЫЦЬ У ССР

**Для нашых замежных суайчыннікаў, напэўна, ужо не навіна, што Беларусь уступіла ў саюз з Расіяй. І называцца ён будзе ССР -- "Сообщество Суверенных Республик". Дагавор аб яго ўтварэнні быў падпісаны Прэзідэнтам Беларусі А.Лукашэнкам і Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б.Ельцыным ва ўрачыстай абстаноўцы ў Маскве 2 красавіка 1996 года. Гэта дата будзе адметна пазначана ў нашым календары. Штогод 2 красавіка мае адзначацца як дзяржаўнае свята.**



УДАКЛАДНЕННЕ

## НАЗЫВАЦЬ — "СУПОЛЬНІЦТВА"

"Дагавор аб утварэнні Супольніцтва" -- так афіцыйна называецца дакумент, падпісаны ў Маскве 2 красавіка ва ўрачыстай абстаноўцы Прэзідэнтамі Беларусі і Расіі Аляксандрам Лукашэнкам і Барысам Ельцыным.

Гэта ўдакладненне зрабіў памочнік прэзідэнта РФ па міжнародных пытаннях Дзмітрый Рурыкаў у адказ на просьбу журналістаў пракаменціраваць змешчаныя ў шэрагу сродкаў масавай інфармацыі розначытанні ў назве ўпамянёнага дакумента.

Паводле слоў памочніка кіраўніка расійскай дзяржавы, абодва Прэзідэнты ў сваіх выступленнях у Крамлі апісальна называлі створанае супольніцтва "Супольніцтвам Незалежных Рэспублік", "Супольніцтвам Суверэнных Рэспублік", "Садружнасцю дзяржаў" і г.д. Усе гэтыя назвы, на думку Дзмітрыя Рурыкава, маюць права на існаванне, паколькі па сваёй сутнасці адлюстроўваюць рэальны змест дагавора. Аднак афіцыйна створанае аб'яднанне называецца адным словам "Супольніцтва" без якіх-небудзь дадатковых вызначэнняў.

Вядома, можна зразумець некаторыя палітычныя сілы, якія называюць новае Супольніцтва "Супольніцтвам Суверэнных Рэспублік", паколькі яго абрэвіятура -- ССР -- сугучная з назвай былога Савецкага Саюза. Аднак, падкрэсліў памочнік Прэзідэнта, "гэта не больш чым апісальная характарыстыка" створанага інтэграцыйнага аб'яднання.

Дзмітрый Рурыкаў дадаў таксама, што, відаць, не варта ўжываць і назву "Супольніцтва Расіі і Беларусі". Дагавор адкрыты для падпісання любой іншай дзяржавай, якая падзяляе яго мэты і задачы і адпавядае пэўнаму ўзроўню інтэграцыйных патрабаванняў. У выпадку расшырэння дагавора такая фармулёўка будзе проста няправільнай, сказаў Дзмітрый Рурыкаў.

*"Мы лічым, што ўсё павінна будавацца на раўнапраўнай аснове. Ніхто не збіраецца прыніжаць нічыёй ролі... У нас вельмі блізкія адносіны, паміж намі няма варо[illegible]жасці. Таму размова не ідзе аб тым, к[illegible] увесці нейкае тэрытарыяльнае дзяленн[illegible]. Калі мы пагодзімся на адзінае прававое поле, аднолькавыя законы, якія будуць дзейнічаць на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў, калі мы прыйдзем да адзінай грашовай сістэмы, калі ў нас будуць адзіныя ўзброеныя сілы, транспарт, сувязь, то ў выніку і атрымаем усё адзінае. І нават слова "Беларусь" гучыць тады гэтак жа, як сёння гучыць "Волагда". Як гэта ўжо будзе называцца -- не будзе мець ніякага значэння. У аддаленай перспектыве мы можам нават прыйсці да такой сітуацыі, калі ў нас будзе сваё ўсходнееўрапейскае супольніцтва, куды ўвойдуць усе славяне. І калі нават аб'ядноўваюцца толькі Расія, Беларусь і Украіна, то таксама не будзе мець значэння, як гэта аб'яднанне будзе называцца. У нас будуць нават адзіныя сімвалы".*

*"Я мяркую, што з Чэчнёй мы закончым. Ва ўсякім разе, пасля 16 чэрвеня поўнасцю і канчаткова. А да выбараў ніякага аб'яднання армій не будзе, таму няхай вашы хлопцы не хвалююцца. Праўда, ім не пашкодзіла б мець нейкі палігон, дзе б яны маглі праявіць сябе, адчуць пах пораху і ўбачыць сапраўдную вайну. Гэта карысна, армія павінна ўдзельнічаць у ваенных дзеяннях. А што датычыцца Чэчні, то там будзе скончана. Патрэбен толькі сілавы варыянт".*

*(З інтэрв'ю Уладзіміра ЖЫРЫНОЎСКАГА беларускім журналістам).*

СТАТЫСТЫКА

## ХТО КОЛЬКІ МАЕ

Звыш 1 мільёна рублёў у месяц атрымліваюць сёння работнікі 835 прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі. Прычым, па даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, заработная плата толькі на сямі з іх складае больш трох мільёнаў. Ад аднаго да паўтара мільёна выплачваюць у 560 вытворчых калектывах. Усяго толькі на адным прадпрыемстве, дзе колькасць працуючых складае 29 чалавек, сярэднемесячная зарплата раўняецца мінімальнай -- 100 тысяч рублёў.

Да трох мінімальных ацэньваецца месячная праца звыш адзінаццаці тысяч чалавек. Ад 300 да 900 тысяч "зайчыкаў" атрымліваюць служачыя больш тысячы прамысловых прадпрыемстваў, сярэднесписачная колькасць якіх, па даных на люты, склала звыш 67 000 працуючых.

ЦАРКВА І ДЗЯРЖАВА

## ВІЦЭ-ПРЭМ'ЕР ПРЫНЯЎ КАРДЫНАЛА

**Аб становішчы рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі, аб праблемах, звязаных з перспектывамі яе развіцця ў рэспубліцы праінфармаваў віцэ-прэм'ера Уладзіміра Русакевіча мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі, кіраўнік Пінскай епархіі кардынал Казімір Свентэк. Іх сустрэча адбылася па просьбе мітрапаліта. У ходзе канфідэнцыяльнай гутаркі абмяркоўваліся пытанні роўнасці канфесій, парадку запрашэння і дзейнасці замежных свяшчэннаслужыцеляў на тэрыторыі Беларусі. Кардынал Казімір Свентэк закрануў таксама праблемы перадачы вернікам культавых будынкаў, якія раней належалі рымска-каталіцкай царкве, аказання дзяржаўнай дапамогі ў рэстаўрацыі кафедральнага сабора ў Мінску. Ішла размова і аб магчымасцях адкрыцця ў рэспубліцы другой рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі.**

СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТАЎ



**30 сакавіка ў Белавежскай пушчы ў рэзідэнцыі "Віскулі" адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі і Прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага.**

**Абмеркавана шырокае кола пытанняў двухбаковых адносін. Растлумачаны пазіцыі ў адносінах імкнення Польшчы да НАТО і дагавора аб саюзе Беларусі з Расіяй.**

**НА ЗДЫМКУ: хлеб-соль Аляксандру КВАСЬНЕЎСКАМУ.**

ГРАМАДСКІ РУХ

## ПАРЛАМЕНЦКІ КЛУБ

**Садзейнічанне станаўленню парламентарызму ў Беларусі, стварэнне механізма падтрымкі прадстаўнічых органаў улады ўсіх узроўняў, павышэнне якасці заканатворчай дзейнасці -- гэтыя і іншыя не менш важныя задачы ставяць перад сабой члены Парламенцкага клуба.**

**Аб стварэнні такога рэспубліканскага грамадскага аб'яднання заявіў, выступаючы на сесіі Вярхоўнага Савета, дэпутат Анатоль Красуцкі. У нефармальнай абстаноўцы беларускія парламентарыі маюць намер не толькі высвятляць набалелыя для палітыкаў праблемы, сустракацца са сваімі калегамі з блізкага і далёкага замежжа, але і ўмацоўваць паміж сабой чыста чалавечыя, шчырыя адносіны. Новы клуб -- не элітарны, паколькі ўжо цяпер у яго запісаліся дэпутаты Вярхоўнага Савета як цяперашняга, так і мінулага скліканняў, а таксама іх калегі, якія прадстаўляюць мясцовыя органы ўлады.**

**"Дзверы Парламенцкага клуба шырока адчынены для ўсіх, незалежна ад партыйнай прыналежнасці і ідэйных поглядаў", -- заявіў Анатоль Красуцкі.**

ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРАТЭСТУ



**2 красавіка, у дзень падпісання ў Маскве Дагавора аб утварэнні Супольніцтва, у Мінску адбылася масавая дэманстрацыя пратэсту. Нягледзячы на папярэджанні праз радыё аб тым, што дэманстранты могуць быць разагнаны сілай, што дэманстрацыя не дазволена ўладамі, у шэсці па гораду і мітынгу на праспекце Машэрава, паводле розных ацэнак, прыняло ўдзел ад 10 да 30 тысяч чалавек. На мітынгу быў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета Беларусі не ратыфікаваць маскоўскі дагавор.**

# "Я – ПРЫХІЛЬНІК СУВЕРЭНІТЭТУ І КАНСТЫТУЦЫІ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Існуе пяць фракцый. Яўных процістаянняў паміж імі пакуль няма, але нябачныя ёсць заўсёды.

*-- Магчыма, пакуль не вырашаліся досыць прынцыповыя пытанні?*

-- Чаму не? Напрыклад, вельмі востра вызначыліся пазіцыі фракцый пры разглядзе прапановы аб стварэнні часовай камісіі па праверцы работы Кіраўніцтва справамі пры Прэзідэнце. Фракцыя "Згода", якая фактычна прадстаўляе каманду кіраўніка дзяржавы, выступіла катэгарычна супраць. У выніку камісію стварыць так і не ўдалося. Даручылі разглядаць гэтае пытанне Кантрольнай палаце. Дарэчы, можа так і лепей. За час сваёй дэпутацкай, парламенцкай дзейнасці я пераканаўся: утвараць часовыя камісіі трэба толькі ў надзвычайных сітуацыях. У даным выпадку ў нас ёсць Кантрольная палата і пракуратура -- няхай працуюць. З іх неабходна і спагнаць.

*-- У "любові" да падобных камісій праяўляецца наша традыцыйная цяга да "надзвычайшчыны"... Так мы і не навучыліся працаваць у нармальным рэжыме, калі кожны сумленна робіць сваю справу і адказвае за яе.*

-- У Вярхоўным Савеце дванаццатага склікання было створана дзесяць "надзвычайных" камісій. Да чаго гэта прывяло, усім вядома.

*-- І ўсё ж сваім вопытным вокам вы, хутчэй за ўсё, бачыце тыя моцныя і слабыя бакі ў дзейнасці новых дэпутатаў, якія з цягам часу павінны праявіцца больш выразна?*

-- Думаю, у новым парламенце будзе больш арганізаванасці, што абавязкова станоўча адаб'ецца на вырашэнні многіх складаных пытанняў.

Адметнай рысай, безумоўна, з'яўляецца большая скіраванасць да інтэграцыі з Расіяй. Тут тон задае адна з асноўных фракцый -- камуністы, якіх падтрымліваюць аграрыі.

Наогул супраць эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй ніхто і не выступае, але палітычная -- гэта ўжо іншая справа.

*-- На працягу якога часу правамоцныя вынікі майскага рэферэндуму 1995 года?*

-- Пакуль іх не адменіць іншы рэферэндум. Толькі нагадаю: і там размова ішла пра эканамічнае супрацоўніцтва.

Калі ўжо разважаць далей, то, канешне, цесная эканамічная інтэграцыя ў стане нарадзіць і палітычную. Але для таго яшчэ павінны выспець пэўныя ўмовы.

*-- Мечыслаў Іванавіч, а ці не адчуваюць новыя заканадаўцы сіндром бяссілля перад націскам выканаўчай улады?*

-- Ёсць, зразумела, і такое. І ўсё роўна трэба шукаць шляхі да паразумення, нават улічваючы не зусім карэктныя падыходы выканаўчай улады да пытанняў, што ўваходзяць у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета. Напрыклад, апошні выпадак, калі Прэзідэнцкім указам здымаецца з пасады галоўны рэдактар парламенцкай газеты. Прабачце, ну якое дачыненне тут мае Прэзідэнт? Мы ў стане самі разабрацца са сваім друкаваным органам.

*-- Напярэдадні адкрыцця першай сесіі было шмат размоў пра непазбежнасць канфрантацыі з Прэзідэнтам. Ці спраўдзіліся сумныя прагнозы?*

-- У нейкай ступені канфрантацыя існуе, асабліва на ўзроўні асобных дэпутацкіх груп. Што тычыцца кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта, то паміж імі выразнага процістаяння пагляду няма. А таму многім дэпутатам даводзіцца больш уважліва падыходзіць да вызначэння ўласнай пазіцыі. Цяперашняе кіраўніцтва я абмяркоўваць не хачу, бо яно шукае паразумення. Я ў апошні перыяд маёй работы на пасадзе старшыні ўжо нават і не шукаў, бачыў: нягледзячы ні на якія намаганні, нічога не атрымаецца. Пытанне асабіста для мяне было вырашана. Ну а яны, калі хочуць, няхай паспрабуюць: можа ў іх і атрымаецца.

*-- Апошнім часам парламентарыі ў разнастайных інтэрв'ю ў сродках масавай інфармацыі лічаць ці не сваім абавязкам падкрэсліць: імпічмента не можа быць і не будзе. Чым выклікана такая перасцярога? Спрацоўвае ахоўны інстынкт?*

-- Лічу, юрыдычна імпічмент магчымы, ніхто яго не забараніў, і не сакрэт, што падставы для гэтага таксама ёсць. Але калі спусціцца на зямлю і ацаніць становішча рэальна, прыходзіш да высновы: сёння трэба шукаць іншыя падыходы ў вырашэнні праблем. Разумеюць гэта і дэпутаты, якія, можа, у нарматворчай дзейнасці пакуль і не вельмі добра арыентуюцца, але ў жыцці разбіраюцца ўсе, а таму разумеюць: імпічмент нічога станоўчага нам не прынясе.

*-- Зараз ставіцца пытанне пра стварэнне агульных з Расіяй наддзяржаўных органаў кіравання. Ці гатовы парламент падзяліцца сваёй уладай?*

-- Так, падобныя размовы ідуць, але адпаведных дакументаў я пакуль не бачыў, а таму цяжка меркаваць пра нешта канкрэтнае. Пажывём -- пабачым. Зразумела, усё павінна адбывацца адпаведна нашай Канстытуцыі.

*-- Здаецца, Канстытуцыя не ўтрымлівае звестак пра наддзяржаўныя ўладныя структуры?*

- Чаму ж? Канстытуцыя не забараняе арганізацыю, скажам, кансультацыйных, дарадчых органаў, як гэта атрымліваецца ў рамках дзейнасці СНД. Але такія ўтварэнні не павінны быць вышэйшымі за дзяржаўныя органы кіравання краіны. Зноў падкрэслю: неабходна выконваць Канстытуцыю.

*-- А ў парламенцкай зале такіх, як вы, прыхільнікаў Канстытуцыі, шмат?*

-- Большасць. Прынамсі, афіцыйна ўсе супраць парушэння Асноўнага Закона. Хаця што там у кожнага ў душы...

Увогуле, у кантэксце цяперашніх падзей, у параўнанні з расійскай Дзяржаўнай думай, наш парламент аказаўся больш сталым і разважлівым: уключыў у парадак дня не "дэнансацыю дэнансацыі" або падтрымку рашэння Думы, а пытанне аб ходзе беларуска-расійскай інтэграцыі.

*-- Як вам [illegible]цца, ці магчыма ў рэшце рэшт паядн[illegible] беларускага Прэзідэнта з камуністамі?*

-- Гэта трэба запытацца ў яго самога. Мне цяжка адказаць.

*-- Інтэграв[illegible] з Расіяй пачынаў Вячаслаў Кебіч. Але пацярпеў няўдачу. Прэзідэнту Лукашэнку, здаецца, больш спрыяе поспех. На ваш погляд, ці ёсць у іх падыходах да данай задачы нейкае прынцыповае адрозненне?*

-- Мне падаецца, намаганні Кебіча і цяперашняга Прэзідэнта падобныя. У значнай ступені ўсё будзе залежаць ад расійскага боку, ад таго, наколькі раўнапраўна там падыдуць да вырашэння праблемы. Менавіта на гэтым і спатыкнуўся ў свой час прэм'ер Кебіч. Тады нам прапанавалі: Нацбанк -- агульны, бюджэт -- агульны і г.д. Калі падобная сітуацыя паўторыцца, зноў нічога не атрымаецца.

*-- Але тады ўсё гэта, прынамсі, не хавалася ад парламента, як робіцца зараз.*

-- Хавалася і тады. Але, хочацца каму ці не, усё трэба выносіць на разгляд Вярхоўнага Савета.

*-- Як вы глядзіце на перспектыву інтэграцыі Беларусі і Расіі?*

-- Цяжка казаць. Калі ўсё будзе рабіцца на роўных умовах, у адпаведнасці з нашымі законамі і Канстытуцыяй, тады я нават буду прыхільнікам такой інтэграцыі.

*-- Але, як вынікае з апошніх выступленняў Прэзідэнта, ён не выключае перагляду Канстытуцыі.*

-- У мяне тут свае падыходы. Канстытуцыю пераглядаць не трэба: гэта не той дакумент, у які кожны дзень уносяць змены. Варта толькі адзін раз туды "залезці", як потым захочацца яшчэ які-небудзь артыкул перапісаць, яшчэ і яшчэ... Увогуле межаў удакладненням і ўдасканаленням няма: колькі людзей, столькі і меркаванняў. Але з Канстытуцыяй так рабіць нельга. Узважылі, прынялі і выконваем. Праект быў змешчаны ў друку, атрымана паўтары тысячы прапаноў, значная частка якіх улічана, нават варыянты цэлых праектаў. А нас сёння абвінавачваюць, нібыта зачыніліся ў Авальнай зале, з народам не параіліся...

*-- Мечыслаў Іванавіч, вы расчараваны ходам палітычных падзей у краіне?*

-- Па крайняй меры, не ўзрадаваны.

Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.

## РЭСТАЎРЫРУЕЦЦА ТЭАТР



**У дакладнай адпаведнасці з арыгіналам, узведзеным каля сотні гадоў назад, вядзецца рэстаўрацыя Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. Для аздаблення будынка мясцовыя ўлады не пашкадавалі сродкаў і закупілі ў Прыбалтыцы цэглу па цане долар за штуку. Усе работы на аб'екце выконваюць высокакваліфікаваныя майстры.**

**НА ЗДЫМКАХ: вядзецца рэстаўрацыя тэатра; дэкаратар тэатра Таццяна ЕЎЦІХЕВІЧ марыць працаваць у адрэстаўрыраваным будынку.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**



## ДЭМАГРАФІЯ

# ПАМІЖ ЖЫЦЦЁМ І СМЕРЦЮ

Зніжэнне нараджальнасці і павелічэнне смяротнасці прывяло да таго, што ў 1993 годзе ўпершыню за пасляваенную гісторыю Беларусі насельніцтва краіны за кошт прыроднага зніжэння скарацілася на 11,2 тысячы чалавек. У мінулым годзе скарачэнне дасягнула 31,8 тысячы чалавек, што супастаўна з колькасцю насельніцтва тыповага беларускага райцэнтра.

Самай відавочнай прычынай зніжэння нараджальнасці з'яўляецца скарачэнне колькасці шлюбаў (з 9,7 на 1 тысячу насельніцтва ў 1990 годзе да 7,5 у 1995-м). Менш трывалымі сталі і самі шлюбы. У Магілёўскай вобласці смяротнасць перавышае нараджальнасць на 40,8 працэнта; на 1 000 шлюбаў прыпадае 582 разводы, муж і жонка нярэдка проста не паспяваюць завесці дзіця за час "імклівага" сямейнага жыцця.

Больш поўную карціну даюць сацыёлагі. Так, па даных спецыялістаў Навукова-даследчага інстытута працы, якія правядзілі апытанне жаночага насельніцтва рэспублікі, прычыны, што перашкаджаюць нараджэнню дзяцей, маюць наступную іерархію: матэрыяльныя цяжкасці -- 30,9 працэнта; нездавальняючыя жыллёвыя ўмовы -- 21,6 працэнта; адсутнасць эканамічнай і палітычнай стабільнасці -- 18,8 працэнта; экалагічныя праблемы -- 9,4 працэнта; дрэнны стан здароўя -- 5,9 працэнта; загружанасць работай на вытворчасці -- 3 працэнты.

Што тычыцца прычын смяротнасці, то крыху больш за 3 працэнты памерлых ідуць з жыцця добраахвотна або становяцца ахвярамі наўмысных забойстваў. Прычым колькасць самазабойстваў перавышае колькасць забойстваў амаль у тры разы, але пры абсалютным росце таго і другога гэта дыстанцыя імкліва скарачаецца за кошт апераджальнага росту забойстваў: з 240 выпадкаў у 1970 годзе да 1 082 -- у 1993 годзе. Усяго ж па прычынах знешніх уздзеянняў, уключаючы няшчасныя выпадкі, загінула 14,6 тысячы чалавек, што склала 11,4 працэнта ад агульнай колькасці памерлых.

Астатнія людзі паміраюць ад старасці і хвароб, якія прагрэсіруюць у неспрыяльным для пражывання сацыяльна-эканамічным і экалагічным асяроддзі. Можна адзначыць, напрыклад, значны рост захворвання насельніцтва на злаякасныя новаўтварэнні, колькасць дыягназаў па якіх з 1985-га па 1993 год вырасла ў 1,3 раза.

У сукупнасці гэтыя фактары прыводзяць да скарачэння чакаемай працягласці жыцця пры нараджэнні (гады, якія ў сярэднім трэба было б пражыць чалавеку з пакалення народжаных, пры ўмове, што на працягу ўсяго жыцця гэтага пакалення ўзровень смяротнасці ў кожным узросце застанецца такім, як на даны перыяд). У 1992 годзе гэтая працягласць склала для ўсяго насельніцтва 70,3 года супраць 72,5 года ў 1970 годзе (у мужчын -- 64,9 супраць 68,1).

На жаль, поўную статыстыку атрымаць не заўсёды ўдаецца. З гэтай прычыны даводзіцца задавальняцца эмпірычнымі назіраннямі, якія сведчаць: працягласць жыцця ўсё больш скарачаецца. Прычым працэс у асноўным "забяспечваюць" маладыя мужчыны. На Украіне, напрыклад, з 173,3 тысячы памерлых у працаздольным узросце 80,8 працэнта склалі мужчыны.

Пагаршэнне дэмаграфічнай сітуацыі, якое стала цяпер відавочным, пачалося яшчэ ў часы СССР і працягваецца ва ўсіх краінах СНД.

*("Белорусский рынок").*

# ЭВАЛЮЦЫЯ ІДЭІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## Ў ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII - ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯЎ

Скліканы ёю з'езд прадстаўнікоў беларускіх арганізацый у Мінску ў сакавіку 1917 года выказаўся за прадастаўленне Беларусі аўтаноміі ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі і выбраў у якасці органа мясцовай улады Беларускі нацыянальны камітэт. Аднак Часовы ўрад Расіі адхіліў патрабаванне з'езда і адклаў вырашэнне гэтага пытання да Устаноўчага сходу. Летам і восенню 1917 года нацыянальна-дэмакратычныя ідэі хутка пашыраліся сярод народнай інтэлігенцыі, сялян, рабочых, салдатаў і матросаў, а таксама каталіцкага і праваслаўнага духавенства. Патрабаванні аўтаноміі Беларусі, развіцця нацыянальнай асветы і культуры знайшлі ў гэты час падтрымку з боку асобных прадстаўнікоў верхніх пластоў грамадства. Тым не менш беларускі нацыянальны рух у аснове сваёй заставаўся дэмакратычным. Найбольшым уплывам у ім, як і раней, карысталася БСГ.

Гэта засведчыў і склад незвычайна прадстаўнічага I Усебеларускага з'езда, які быў арганізаваны пры вядучай ролі БСГ у снежні 1917 года ў Мінску з дазволу і нават з пэўнай фінансавай падтрымкай з боку цэнтральнай бальшавіцкай улады. У рабоце з'езда ўдзельнічалі 1 872 дэлегаты. Аднак ён паспеў прыняць толькі першы пункт пастановы аб самавызначэнні Беларусі і часовай краёвай уладзе ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Апошні, паводле пастановы, павінен быў узначаліць кіраванне краіны, уступаючы ў дзелавыя адносіны з цэнтральнай уладай, г. зн. з бальшавіцкім Саветам Народных Камісараў на чале з Леніным. Пераважная большасць з'езда выступала за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэрацыі. У момант прыняцця гэтага рашэння -- у ноч з 17 на 18 снежня 1917 года -- з'езд быў разагнаны кіраўнікамі мясцовай бальшавіцкай улады, якія абапіраліся на вайсковую сілу.

Прадстаўнікі заходнебеларускіх арганізацый на з'ездзе ў Мінску не ўдзельнічалі. К таму часу іх пазіцыі па пытанні аб беларускай дзяржаўнасці істотна змяніліся. Ініцыятыва зыходзіла ад В.Ластоўскага і групы яго аднадумцаў, што к лету 1917 года аб'ядналіся ў "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі", якая адмовілася ад ідэі адзінай Літоўска-Беларускай дзяржавы з прычыны праяўлення летувісамі захопніцкіх імкненняў у дачыненні да беларускіх зямель. Тое ж назіралася і з боку польскіх арганізацый. Улічваючы гэта, члены "Сувязі" на сваім сходзе ў пачатку чэрвеня прынялі рэзалюцыю, у якой выказаліся за аб'яднанне часова падзеленай ваенным фронтам Беларусі ў "адзіны суцэльны і незалежны арганізм" і стварэнне незалежнай Беларускай рэспублікі. Паруку яе трываласці група В.Ластоўскага бачыла "ў федэратыўнай сувязі з найбліжэйшымі суседзямі". Апошніх павінен быў вызначыць Устаноўчы сойм Беларусі, выбраны на дэмакратычных асновах. Рэзалюцыя сходу была апублікавана асобнай лістоўкай.

У адной з наступных сваіх лістовак "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі" выступіла з патрабаваннем выдзялення занятых немцамі беларускіх зямель у асобную адміністрацыйную адзінку і заявіла аб неабходнасці дабівацца, каб на будучы Міжнародны мірны кангрэс былі дапушчаны і прадстаўнікі недзяржаўных нацый, на тэрыторыі якіх адбывалася вайна, у тым ліку беларусаў з абодвух бакоў фронту. Яны … іж іншым, павінны былі дам… ся прызнання Міжнародным кангрэсам незалежнай Беларусі. У той жа час у лістоўцы выказвалася надзея, што польскія палітычныя і грамадскія арганізацыі не будуць перашкаджаць развіццю культурнага і нацыянальнага жыцця беларускага народа паводле яго ідэалаў і прызнаюць права беларусаў на самавызначэнне свайго лёсу, на ўстанаўленне ўнутранага ладу Беларусі і яе адносін да суседніх народаў Устаноўчым сходам Беларусі, выбраным усімі жыхарамі беларускай зямлі. "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі" вітала барацьбу Украінскай рады за незалежнасць Украіны, прызнала права літоўскага народа на стварэнне незалежнай дзяржавы ў этнаграфічных межах і разам з тым заявіла пратэст "супраць анексійных прэтэнзій літвінаў да беларускіх зямель".

У снежні 1917 года, калі была абвешчана Літоўская рэспубліка, а бальшавіцкі ўрад Расіі без удзелу прадстаўнікоў Беларусі пачаў у Брэсце мірныя перагаворы з Германіяй, ад ідэі канфедэратыўнай літоўска-беларускай дзяржавы адмовіліся і іншыя заходнебеларускія дзеячы, у тым ліку браты Луцкевічы. Тады ж з прадстаўнікоў усіх плыняў нацыянальнага руху ў Вільні быў створаны Арганізацыйны камітэт для склікання Беларускай канферэнцыі, якая павінна была вызначыць асновы беларускай дзяржаўнасці ("народнага прадстаўніцтва") на акупаванай немцамі тэрыторыі.

На канферэнцыі, што адбылася ў канцы студзеня 1918 года, была выбрана Віленская Беларуская рада на чале з А.Луцкевічам, якая выступіла за незалежнасць Беларусі.

Аднак вырашальныя для лёсу беларускай дзяржаўнасці падзеі адбываліся ў той час не ў Вільні, а ў Мінску. 18 снежня 1917 года -- адразу ж пасля разгону Усебеларускага з'езда, яго дэлегаты сабраліся ў лакаматыўным дэпо і прынялі рашэнне аб прызнанні Савета (Рады) з'езда Часовай краёвай уладай да часу II Усебеларускага з'езда. 21 снежня Рада абрала Выканаўчы камітэт, які дзейнічаў у падполлі да 19 лютага 1918 года. З пачаткам наступлення немцаў пасля зрыву Л.Троцкім мірных перагавораў у Брэсце бальшавіцкія ўлады спешна пакінулі Мінск. 20 лютага Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда, папоўнены прадстаўнікамі дэмакратычных арганізацый нацыянальных меншасцяў, здзяйсняючы пастанову з'езда, абвясціў сябе часовяю ўладаю на Беларусі і сфармаваў першы нацыянальны ўрад -- Народны сакратарыят, які складаўся з сяброў БСГ.

Аб гэтым паведамлялася ў першай Устаўнай грамаце да народаў Беларусі, апублікаванай 21 лютага.

У сувязі з падзелам Беларусі па Брэсцкаму мірнаму дагавору, падпісаным Расіяй і Германіяй, выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда 9 сакавіка 1918 года выдаў II Устаўную грамату, у якой абвясціў Беларусь у межах рассялення і колькаснай перавагі беларусаў Народнай рэспублікай. У грамаце фармуляваліся таксама асноўныя правы і вольнасці грамадзянаў Б… 8 сакавіка Рада Усебеларускага з'езда ператварылася ў Раду БНР. У яе склад былі кааптаваны старэйшыя дзеячы беларускага нацыянальнага руху Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі і іншыя, якія прыехалі у Мінск у якасці прадстаўнікоў Віленскай Беларускай рады. Менавіта пад іх уплывам фракцыя БСГ, а затым і большасць Рады БНР прынялі III Устаўную грамату, паводле якой Беларуская народная рэспубліка абвяшчалася незалежнай і вольнай дзяржавай.

Нямецкія акупанты, дакладна выконваючы ўмовы Брэсцкага мірнага дагавора, не прызналі БНР і ўсяляк перашкаджалі яе станаўленню і дзейнасці, за выключэннем нацыянальна-культурнай і асветніцкай, у якой за кароткі час у вельмі цяжкіх умовах былі дасягнуты значныя поспехі. Кайзераўская адміністрацыя не дазволіла стварыць беларускае войска і паліцыю, органы суда і мясцовай улады. Адступаючы з Беларусі восенню 1918 года, немцы пакінулі яе безабароннаю перад расійска-бальшавіцкімі і польскімі акупантамі.

Тым не менш ідэя беларускай незалежнай дзяржавы актам 25 сакавіка была не толькі абвешчана, але і часткова, наколькі дазволілі гістарычныя ўмовы, ажыццёўлена. БНР прызналі Украіна, Літва, Латвія, Чэхаславакія, Фінляндыя, Балгарыя. Урад БНР шчыра і рашуча абараняў інтарэсы беларускага народа на міжнароднай арэне, пратэставаў супраць падзелаў Беларусі паміж Расіяй і Германіяй у Брэсце, паміж Расіяй і Польшчай у Рызе, дамагаўся (у асобе А.Луцкевіча) прызнання незалежнай Беларусі на Версальскай мірнай канферэнцыі і г.д. Абвяшчэнне і дзейнасць БНР з'явіліся адным з фактараў, якія прымусілі ЦК бальшавіцкай партыі на чале з Леніным прыняць у канцы 1918 года рашэнне аб утварэнні Беларускай савецкай рэспублікі.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 13—14.**

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# "Я ХАЧУ ВЫКАНАЦЬ ДАДЗЕНЫЯ НАРОДУ АБЯЦАННІ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

-- Па-першае, я не ведаю, што гэта за кіраўніцтва Ціцянкова. Я ведаю, што Ціцянкоў узначальвае Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Гэта кіраўніцтва Прэзідэнта! Ціцянкоў можа зрабіць толькі тое, што яму дазволіць Прэзідэнт.

Вы можаце здзівіцца, але нават некалькі кватэр для забеспячэння верхатуры ўлады ў Беларусі ідзе цераз Прэзідэнта. Распараджэнне падпісвае Лу-ка-шэнка!

Таму не трэба валіць на Ціцянкова, на Замяталіна, гаварыць, што яны такія-сякія! Гэта нармальныя людзі, гэта людзі, на якіх "накатваюць", якія не змогуць -- па вялікаму рахунку скажу -- прадаць Прэзідэнта і здрадзіць яму. Яны гэтага не зробяць.

Паставілі пытанне пра Ціцянкова. Вядома, гэта чалавек, які не пазбаўлены нейкіх там памылак. Але, паверце, яго памылкі могуць быць толькі ў выкананні волі Прэзідэнта.

Возьмем вядомую падзею -- упарадкаванне будынкаў у горадзе Мінску і па ўсёй рэспубліцы. Я даручыў сваім указам, каб Кіраўніцтва справамі (стварыў для гэтага рэспубліканскую камісію) ахоўвала ўсе памяшканні і будынкі ў Мінску, якія адносяцца да рэспубліканскай і мясцовай уласнасці. Работа гэта была праведзена: узята на ўлік больш двухсот будынкаў і памяшканняў, у якіх учора панавала жуллё. Вазьміце той жа праектны інстытут. Усё там развалілі, разбурылі, з дзевяці паверхаў пяць-шэсць аддалі камерсантам. Нічога не робяць, жывуць нядрэнна, а ў бюджэт нічога не паступае, ды яшчэ начальству гэтага інстытута ў кішэню кладуць. Ці можна спакойна на гэта глядзець? Я аб гэтым ведаў, калі працаваў яшчэ старшынёй антыкарупцыйнай камісіі. І я прадоўжыў гэту работу. Мы вывучылі становішча спраў. 150 будынкаў перададзены Мінгарвыканкому і дзевяці кіраўнікам адміністрацыі горада Мінска, а 80 буйных будынкаў падпарадкаваны Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта. Сёння, напрыклад, я падпісаў распараджэнне аб перадачы ў Раўбічах добрага гасцінічнага цэнтра Міністэрству спорту, дзе і раней яно было. Там на 80 гасцінічных месцаў было сто работнікаў. Калі пачалі разбірацца, аказваецца, там уладкаваліся многія сваякі нашых высокапастаўленых чыноўнікаў якія пабудавалі катэджы вакол Мінска.

Не, так не будзе! Былі прыняты меры. Скажыце, каму гэта спадабаецца? Але на Прэзідэнта не накаціш: ён не злодзей ці які-небудзь карупцыйны элемент. Гэтага ніхто не можа сказаць, таму што гэта не так. Людзі ў гэта не павераць. Каго ж тады абліваць брудам? Яго акружэнне: дрэнны Слука, дрэнны Ціцянкоў, дрэнны Латыпаў! Гэта людзі, яшчэ раз падкрэсліваю, якія, я перакананы, ніколі Прэзідэнта не прададуць і не здрадзяць яму. Гэта выключна сумленныя і надзейныя людзі. І калі яны дзесьці памыляцца, мы з імі разбяромся, я разбяруся сам! У мяне не заіржавее, вы гэта ведаеце. Гэта ж мой твар! І калі хтосьці з іх накрадзецца сёння, мне ж ганьба. Як мне да народа будзе выйсці? Што я яму скажу? Калі ж мяне пачынаюць за штосьці рэзка крытыкаваць, я думаю: за што, я ў вас нічога не ўкраў. Я выратоўваю рэспубліку, я выратоўваю эканоміку! Вы сказалі, што мяне крытыкуюць за тое, што разваліў эканоміку рэспублікі і іду ў Расію, каб прыкрыць свае недахопы. Я паўтара года ва ўладзе, за паўтара года разваліць нічога немагчыма! Развалілі ўсё да мяне! Успомніце перадвыбарную кампанію. Што ў нас было на паліцах? Нічога не было. Нават па высокіх цэнах нельга было купіць самае неабходнае. Усё было расцягнута, прапіта, раскрадзена, і гэта вы добра ведаеце. Я спрабую гэта сабраць у адно. Таму гэтыя людзі (акружэнне Прэзідэнта), акрамя пінкоў ад Прэзідэнта, нічога не атрымліваюць. Ім сёння цяжка.

Але я не выключаю, гэта жывыя людзі, у кожнага ёсць свае інтарэсы, і, не кантактуючы з грамадствам, яго членамі, нельга кіраваць гэтым грамадствам... Ганчар стварае камісію! Які вінаваты 200 тысяч долараў. Я адчуваў сітуацыю, стараннасць з боку асобных дэпутатаў і вялікую "цікавасць" сродкаў масавай інфармацыі, таму і стварыў камісію, куды ўвайшлі Генеральны пракурор, старшыня Кантрольнай палаты. Дзяржсакратар, міністр унутраных спраў, старшыня КДБ, пяць дэпутатаў... Да работы ў камісіі яны могуць прыцягваць, каго захочуць. Калі праз месяц знойдуць там парушэнні, паверце, разбіральніцтва будзе жалезным і капітальным!

**-- Стаўшы Прэзідэнтам, Аляксандр Лукашэнка атрымаў новы беларускі пашпарт за нумарам адзін з выявай "Пагоні". Які яго лёс! І калі грамадзяне рэспублікі займеюць свой нацыянальны пашпарт, прызнаны ва ўсім свеце! Відаць, мы адзіныя на прасторах былога Саюза, хто выязджае за мяжу з дакументам неіснуючай дзяржавы -- СССР. Неяк няёмка за сябе і краіну, у якой жывеш.**

-- Дакумент у нас нармальны, прыгожы, -- у каго застаўся пашпарт Савецкага Саюза. Нічога лепшага мы не вынайшлі. А той пашпарт, нумар адзін, які калісьці мне ўручылі, законны пашпарт, сёння ляжыць разам з маім прэзідэнцкім пасведчаннем, таксама са старой сімволікай, у мяне ў сейфе. І павінен ляжаць!

Вы памятаеце, які флажок да рэферэндуму быў на маёй машыне. А спадар Шушкевіч, нацыяналіст, які вельмі любіў бел-чырвона-белы флаг, ніколі на сваёй машыне гэту сімволіку не выкарыстоўваў. У мяне ж, аж да рэферэндуму, да новай сімволікі, заўсёды быў бел-чырвона-белы флаг. Я быў законапаслухмяным чалавекам. Сёння народ прагаласаваў за гэту сімволіку. Дрэнны вось гэты флажок, не падабаецца ён вам, але народ за яго выказаўся, і не трэба бачыць у гэтым штосьці страшнае. Сёння ён у мяне на службовым аўтамабілі, які я нідзе не здымаю і не саромеюся за яго.

Што датычыць нашага беларускага пашпарта міжнароднага ўзору з цяперашняй сімволікай, то ён ужо друкуецца. А паколькі з ранейшай сімволікай было надрукавана вельмі многа пашпартоў і людзям патрэбны былі яны, асабліва маладым грамадзянам, мы іх таксама выдавалі.

**-- Другога красавіка прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын падпішуць саюзны дагавор паміж дзвюма краінамі. Як складзецца пасля гэтага лёс Беларусі! Ці не пачнуцца ў грамадстве раскол і супрацьстаянне!**

-- Вы памятаеце, якія падобныя пытанні задавалі і напярэдадні якой падзеі?

**-- Калі вы былі кандыдатам у Прэзідэнты, я запыталася, куды паедзе Аляксандр Лукашэнка, калі не пераможа на выбарах!**

-- Так, было такое. А потым, напярэдадні рэферэндуму, нацыяналісты крычалі: "Ай-яй-яй! Рэферэндум -- гэта раскол у грамадстве!" Мы пражылі пасля рэферэндуму год. Што адбылося? Які раскол? Пасля таго, як мы падпішам дагавор з Расіяй, ніхто нікуды не паедзе, ніякага расколу, паверце, не будзе. А што нашы людзі будуць жыць лепш, я ў гэтым перакананы. За гэтым дагаворам паступіць шмат іншых пагадненняў. Нашы заводы і фабрыкі будуць пастаўлены ў роўныя ўмовы з заводамі і фабрыкамі Расіі. Зразумейце толькі адно: сёння мы з Расіяй можам заключыць саюз на роўных.

Мы заключым гэты саюз, які не супярэчыць Канстытуцыі. Як кіраўнік дзяржавы, я маю права заключыць гэты дагавор і ўнясу яго на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет. Усё будзе зроблена ў рамках Канстытуцыі.

Праз некалькі месяцаў вы мне скажаце дзякуй, калі думаеце жыць у гэтай краіне, і жыць дастойна, каб і на захадзе было добра, і на ўсходзе. І гэта сімвалічна, што адразу ж з Масквы я адлятаю ў Белавежскую пушчу і сустракаюся з прадстаўніком другой нашай суседняй дзяржавы, прэзідэнтам Польшчы Аляксандрам Квасьнеўскім. У нас вельмі добрыя адносіны з усімі нашымі суседзямі. Тавараабарот з той жа Украінай за мінулы год склаў каля паўтара мільярда долараў, што ў тры разы больш, чым пры ўрадзе Кебіча. З прыбалтыйскімі краінамі вырашаны пытанні па граніцах. Памятаеце гвалт бэнээфаўцаў: маўляў, Лукашэнка падпісаў дагавор аб граніцы, Гадуцішках? Валтузня была за адну рэйку. Раскол будзе ў грамадстве! Мы ўрэгулявалі і гэта балючае пытанне, якое цягнецца стагоддзямі...

Чаго ж мы сёння ваюем і стогнем? Мяне выбралі Прэзідэнтам, -- дык верце! Памылюся -- біце! Толькі ў Чэчню хоць аднаго чалавека -- давіце! Паверце, пасыланне нашых людзей за межы Беларусі на вайну -- гэта неадкладная мая адстаўка. Таму ніколі гэтага не будзе. Гэта звычайны розыгрыш нашых нацыяналістаў у гэты час. А воля народа будзе мною выканана, чаго б гэта мне ні каштавала!"

**-- Дзякуй за гутарку.**

26 сакавіка 1996 года.

НЕЗАЛЕЖНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

Тым не менш перад намі не навуковая праца, а рэзкі палітычны памфлет. Чаго варты адзін загаловак -- "Воўчы білет самазванныму рэдактару-выдаўцу "Нашае Долі" -- яснавяльможнаму "пану графу" Францішку Умястоўскаму". "Вось гэтак выглядае **нашая праўда!** -- задзіраўся Барывой. -- Бо няўжо ж бы столькі людзей ды яшчэ: Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Рамуальд Зямкевіч, Вацлаў Ластоўскі ды Эдвард Будзька гаварылі аднагалосна няпраўду?" Нарэшце -- эфектная канцоўка: "Мы ж нашымі фактамі даемо пану Ф.Умястоўскаму **воўчы білет** -- гэтак патрэбны яму на выбарах. Спадзяёмся, што беларускія сялянска-работніцкія гушчы пазналіся і пазнаюцца на ім і скажуць яму словамі нашага слаўнага Мацея Бурачка: "Скінь скурку, дабрадзею, бо зубкі відаць!"

Безумоўна, Умястоўскі меў заслугі перад беларускім рухам ранняга перыяду і быў калі не рэдактарам-выдаўцом, то сярод актывістаў "Нашай долі". У гэтых адносінах публікацыі Барывоя выглядаюць вельмі аднабаковымі (у бязлітаснай палітычнай барацьбе такая аднабаковасць -- з'ява звычайная). Вядома ж, Дзядзька Пранук пратэставаў. Пад псеўданімам Барывоя, сцвярджаў ён, хаваецца Зямкевіч.

28 сакавіка 1928 года ў "Волі працы" (новая назва ўсё той жа газеты) друкуецца заява Р.Зямкевіча, што ён не мае нічога агульнага з Барывоем. Гэта пацвердзіла і рэдакцыя газеты. Але ад пазіцыі Барывоя Зямкевіч не адмяжоўваўся. Наадварот, паведамляецца новы крымінал, -- што Умястоўскі прыслаў да Зямкевіча пасланца з грубымі пагрозамі.

Сёння лічыцца (гл. шасцітомны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", змешчаныя там бібліяграфічныя матэрыялы пра Зямкевіча і Умястоўскага), што Саўка Барывой -- сапраўды Зямкевіч. Не супярэчыць такой атрыбуцыі стыль і вялікая інфармаванасць Барывоя, веданне ім усіх тонкасцей ранняй гісторыі беларускага руху. (Да таго ж падобным псеўданімам карыстаўся беларускі пісьменнік XIX стагоддзя Вінцэсь Каратынскі, што ў тыя часы мала каму -- хіба толькі Зямкевічу -- было вядома). Спасылкі на Зямкевіча ў тэкстах Барывоя выглядаюць у такім выпадку маскіроўкай, да таго ж з яўнымі элементамі самарэкламы.

Чаму якраз Зямкевіч так кінуўся ў бой супраць Умястоўскага -- невядома. Тым больш зрабіць гэта адкрыта не адважыўся.

Ад ўсёй гэтай газетнай шуміхі астаўся прысмак скандалу. І вядома ж, наўрад ці гэта ўмацоўвала аўтарытэт нашага героя сярод беларускай культурнай грамадскасці.

Не лепшая рэпутацыя адносна метадаў калекцыяніравання склалася ў Зямкевіча і ў Варшаве.

У 1932 годзе Варшаву ўскалыхнула сенсацыя, што былы начальнік аддзела польскай Найвышэйшай кантрольнай палаты, ён жа былы прафесар (па-польску кожны выкладчык — прафесар) беларускай літаратуры ва Усходнім інстытуце інжынер Рамуальд Зямкевіч арыштаваны крымінальнай паліцыяй па абвінавачанні ў крадзяжы каштоўных гістарычных дакументаў з вядомых Раперсвільскіх збораў. Уплывовы і інфармаваны "Кур'ер варшаўскі" напальваў страсці, пішучы як пра ўстаноўлены факт, што Зямкевіч нават зусім не інжынер, за якога сябе выдае. Скончыўшы ледзьве два семестры кіеўскай палітэхнікі, пісала газета, Зямкевіч у перыяд Кераншчыны вырабіў сабе фальшывы "паслужны спіс", дзе прадставіў сябе інжынерам. Гэты дакумент нібыта памог яму ўладкавацца на пасаду памочніка начальніка чыгуначнай дыстанцыі ў Лідзе. Пасля смерці жонкі ў 1923 годзе перабраўся ў Варшаву і ўзбіўся там на прыстойную пасаду ў акруговай кантрольнай палаце, дзе працаваў да 1929 года, атрымаўшы эмэрытуру (пенсію) YIII службовага рангу. Ды што казаць -- распіналася далей газета -- ужо студэнтам варшаўскай палітэхнікі (1907—1908 год) згаданы Зямкевіч абакраў вядомы антыкварыят пана Гераніма Вільдара, а потым і яшчэ адзін не менш шаноўны антыкварыят, сцягнуўшы адтуль каштоўныя гравюры і рукапісы. "Ці адбываў у сувязі з гэтым зняволенне -- брак станоўчых звестак", -- заключала газета. Што тут праўда, а што прыдумкі ахвочых да сенсацый газетчыкаў -- сказаць не бяромся. Можа прыйсці ў галаву і такое: ці не было гэта нейкім працягам віленскай гісторыі з Умястоўскім? Апошні меў уплывовых сяброў і мог адпаведным чынам "аддзячыць" свайму крыўдзіцелю. Але, як кажуць, дыму без агню не бывае. Тым больш нам вядома пра стрыманыя адносіны да пана Рамуальда і беларускіх дзеячаў, што блізка яго ведалі.

Ды і наш шаноўны Адам Мальдзіс піша ў "Таямніцах старажытных сховішчаў" аб сваім дужа скептычным стаўленні да Зямкевіча (цытуем): "...бо рукапісы цягнуў ён, дзе толькі мог (колькі разоў у архівах мне трапляліся пашкуматаныя папкі з запісам, што дакументы адсюль украдзены Зямкевічам)".

Аднак як бы мы ні ставіліся да асобы Зямкевіча, яго заслугі перад беларускай культурай несумненныя. На падставе сабраных калекцый Зямкевіч напісаў шэраг прац па беларускай бібліяграфіі, краязнаўству, этнаграфіі, гісторыі беларускай літаратуры, тэатра, музыкі, каштоўныя сваім багатым фактычным матэрыялам. Асобных выданняў (невялічкіх кніжак, адбіткаў) у яго няшмат: "Адам Ганоры Кіркор (Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці)", "Ян Баршчэўскі -- першы беларускі пісьменнік XIX сталецця (Успаміны ў 60-ю гадаўшчыну смерці)" (абедзве -- Вільня, 1911), "Цукраварні на Беларусі" (Мінск, 1918), "Аб беларускай народнай эстэтыцы: Спробы характарыстыкі" (Вільня, 1927). Затое іншых публікацый хапае. З артыкулаў назавём хаця б "Стары Менск у беларускіх успамінах" (1919--1920), хоць Зямкевіч і прамаўчаў аб выкарыстанні ім адпаведнага рускамоўнага артыкула А.Слупскага з колішняга "Мінскага лістка".

У многіх галінах айчынных гуманітарных даследаванняў ён быў першапраходцам. Апублікаваная ім "Беларуская бібліяграфія" (1910) увайшла ў гісторыю як першы спецыяльны бібліяграфічны даведнік на беларускай мове. У гісторыка-літаратурных працах і публікацыях ён прывёў цікавыя звесткі пра В.Дуніна-Марцінкевіча, А.Кіркора, Я.Баршчэўскага, М.Багдановіча, К.Каганца, Я.Лучыну, А.Ельскага, апублікаваў некаторыя іх рукапісы, спрачаўся з тымі даследчыкамі, якія недаацэньвалі значэнне і эстэтычны ўзровень нашай літаратуры XIX стагоддзя, у прыватнасці, творчасці Дуніна-Марцінкевіча, выклікаў у беларускім грамадстве цікавасць да канкрэтнага літаратуразнаўства, да пошукаў і публікацый у гэтай галіне. У бясспрэчную заслугу яму ставіцца, што ён першы апублікаваў шырока вядомы цяпер гравіраваны партрэт В.Цяпінскага 1576 года, адшукаўшы яго ў бібліятэцы князёў Святаполк-Завадскіх.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 12—14.**

*З НАРАДЫ ПА СТВАРЭННЮ ТАВАРЫСТВА ІМЯ ТАРАШКЕВІЧА*

# БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЕ БЫЦЬ

Напрыканцы сакавіка ў Мінску адбылася генеральная асамблея па стварэнню Таварыства беларускай школы (ТБШ) імя Браніслава Тарашкевіча.

Падстаў для стварэння такой арганізацыі на цяперашні момант больш чым дастаткова. Пасля майскага рэферэндуму ў краіне назіраецца пагаршэнне стану беларускай адукацыі ўсіх узроўняў. Калі за апошнія пяць гадоў няспынна павялічвалася колькасць школ і класаў з беларускай мовай навучання, адбыліся пэўныя змены ў дашкольным выхаванні, сярэдніх спецыяльных установах і вышэйшай адукацыі на карысць адраджэння нацыянальнай мовы і культуры, то сёння відавочны скачок назад. У параўнанні з мінулым годам колькасць беларускіх школ зменшылася на 3,4 працэнта, на 20,1 працэнта -- двухмоўных, затое колькасць школ з рускай мовай навучання павялічылася адразу ў 2,5 раза. У выніку з 1 538 068 вучняў афіцыйна па-беларуску цяпер навучаецца 535 270 (34,8 працэнта), па-руску -- 1 002 236 (65,2 працэнта). Больш таго, некаторыя настаўнікі насуперак усім маральным і этычным нормам дагэтуль агітуюць бацькоў пераводзіць іх дзяцей на рускую мову навучання.

На працягу ўжо стагоддзяў беларуская мова знаходзіцца між молатам і кавадлам і існуе на мяжы выжывання. У 1921 годзе ў Заходняй Беларусі было створана Таварыства беларускай школы па абароне беларускасці ад уціску і польскай асіміляцыі. Сёння зноў нават ва ўмовах існавання незалежнай дзяржавы існуе небяспека мэтанакіраванай цяпер рускай асіміляцыі. Парадаксальна, але беларусы могуць апынуцца ў становішчы нацменшасці ў сваёй уласнай краіне, і, відавочна, самасвядомая грамадскасць не можа з гэтым пагадзіцца. Вельмі цешыць, што на гэты раз рух за стварэнне ТБШ пачаўся знізу. Адметна, што акрамя навукоўцаў і бацькоў да яго далучаецца ўсё больш настаўнікаў з пачуццём годнасці і ўсведамленнем сваёй сапраўднай місіі -- выхаванне грамадзян і патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны. У многіх абласцях і раённых цэнтрах ужо створаны рады ТБШ, якія прыслалі сваіх прадстаўнікоў на ўстаноўчы сход у Мінск. Без прадстаўніцтва засталіся толькі Магілёўская і Віцебская вобласці, дзе ідэя адраджэння пакуль не знаходзіць пэўнай падтрымкі. Прыехала на сход дэлегацыя з Вільні, дзе ТБШ было ўтворана яшчэ ў 1993 годзе.

-- Нельга забываць вопыт ТБШ, якое існавала з 1921 па 1937 год у Заходняй Беларусі, і трэба ісці тым жа шляхам, -- адзначыў старшыня віленскага таварыства Лявон Луцкевіч. -- Сябры ТБШ змагаліся за родную мову, складалі падручнікі, выдавалі газеты, наладжвалі гурткі самаадукацыі, спрыялі ўжыванню роднай мовы на ўсіх узроўнях. У верасні гэтага года спаўняецца 75 гадоў ТБШ. Хочацца спадзявацца, што да таго часу новая арганізацыя ўжо стане на ногі і мы разам адсвяткуем гэтую знамянальную дату. Наогул, я перакананы, што існаванне ТБШ у Беларусі прынясе плён і будзе адным з стрымліваючых фактараў працэсу антыбеларусізацыі ў дзяржаве Беларусь.

Адметнай з'явай установачага сходу можна лічыць тое, што на абмеркаванне дэлегатаў было прапанавана два праекты статута ТБШ. Нават нягледзячы на той факт, што ўдзельнікі атрымалі праекты толькі перад пачаткам сходу, завязалася плённая дыскусія па двух асноўных пытаннях.

Першае -- акрэсленне мэты і стаўленне ў гэтым сэнсе да рускамоўных класаў і школ. Вінцук Вячорка зазначыў, што фармуліроўка"... сацыяльна-прававая абарона дашкольнікаў, школьнікаў, студэнтаў і педагогаў, беларускіх навучальна-выхаваўчых устаноў незалежна ад мовы навучання" зусім не адрозніваецца ад цяперашняй урадавай палітыкі і прапанаваў абмежавацца толькі беларускамоўнымі ўстановамі. Аднак, як слушна было заўважана многімі дакладчыкамі, нельга ў цяперашніх варунках абмяжоўвацца толькі беларускімі і пакідаць рускамоўныя школы і класы без увагі. Пасля абмеркавання і ўзгаднення па прапанове прарэктара Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання Генадзя Пятроўскага і выкладчыка гуманітарнага ліцэя Лявона Баршчэўскага была ўхвалена наступная фармуліроўка: "ТБШ супрацоўнічае з рускамоўнымі школамі і спрыяе паступоваму іх пераводу ў рэжым двухмоўя і надалей у беларускамоўны рэжым..."

Другое спрэчнае пытанне тычылася структуры і выбарчых органаў ТБШ. Наогул адзін з статутаў быў нашпігаваны вельмі гучнымі назвамі і тытуламі накшталт "генеральная асамблея", "грамадскія члены-карэспандэнты", "акадэмікі" і г. д., якія на схеме займалі адметнае месца "зверху". Для пярвічных суполак жа быў пакінуты толькі непрыкметны куток "знізу". Усе кропкі над "і" ў гэтым пытанні вельмі змястоўна расставіў вядомы паэт Беларусі Ніл Гілевіч:

-- У нашым уяўленні яшчэ жывуць былыя савецкія стэрэатыпы "заслужаных", "народных" і г. д., да якіх мы вельмі прызвычаіліся. Нідзе ў свеце такога няма. Відавочна, нельга быць задаволеным месцам беларускай інтэлігенцыі ў грамадстве, але ганаровыя тытулы нас наўрад ці выратуюць. Якіх толькі ў нас ужо няма акадэмій і акадэмікаў! Нядаўна ў "Вячэрнім Мінску" я прачытаў артыкул "Народ -- без народных?", назоў якога гаворыць сам за сябе. Але якая ж здарыцца бяда, калі будуць існаваць "народныя" і не будзе народа! Мне прапаноўвалі быць ганаровым акадэмікам аж чатырох акадэмій, але я адмовіўся. Сёння ў першую чаргу нам патрэбна думаць не пра свой гонар, а гонар народа.

Наогул многія выступоўцы адзначалі, што ніякія аўтарытэты, ніякія навуковыя распрацоўкі нічога не будуць вартыя і не зрушаць справу з месца, пакуль не зменіцца стаўленне да беларускай справы настаўніцтва і кіраўніцтва школы на ўсіх узроўнях. Дырэктар адной са школ Ліды прывёў яскравы таму прыклад: у яго школе, дзе ўсе настаўнікі ўсведамляюць важнасць уратавання беларускай мовы, з 1 700 навучэнцаў была толькі **адна**(!) заява на навучанне на рускай мове. Менавіта таму пярвічныя суполкі вымагаюць першаснай увагі.

На жаль, не абышлося без арганізацыйных і іншых хібаў. На генеральную асамблею, а папросту ўстаноўчы сход, завітаў былы старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, якому пэўна было што сказаць і які пакінуў залу незаўважаным. Пунктуальнасць, рэгламент, этыкет -- рэчы, якія з цяжкасцю і рэдка пакуль ужываюцца ў беларусаў. Нехта ўвогуле не бачыў сэнсу ў абмеркаванні статута і прапанаваў "прыняць за аснову" любы варыянт, каб толькі прыспешыць рэгістрацыю таварыства. З-за таго, што не была дакладна акрэслена канцэпцыя і мэта стварэння арганізацыі, штораз узнікала пытанне, чым дзейнасць новай ініцыятывы будзе адрозніваецца ад ужо існуючых Таварыства беларускай мовы, Гарадскога бацькоўскага камітэта і іншых, якія ўжо працуюць на ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння. Наогул гэта можна патлумачыць як тым, што ініцыятыва робіць толькі першыя крокі, а аргкамітэт быў утвораны толькі 6 лютага г. г., так і тым, што на сход прыехалі людзі з розных куткоў краіны, якія бачылі адзін аднаго ўпершыню, а магчыма яшчэ і нейкай недасведчанасцю. Але, паколькі на сход прыехалі людзі зацікаўленыя і неабыякавыя... нераўнадушныя, прыемна адзначыць, што яны змаглі ўсё ж мабілізавацца, пераадолець пэўныя непаразуменні і выпрацаваць канцэпцыю, якая задаволіла ўсіх. Гэта вельмі абнадзейвае і сведчыць аб тым, што ў арганізацыі ёсць будучыня, а таму беларускай школе быць.

На сходзе было абрана кіраўніцтва, а таксама Назіральны сойм ТБШ, куды ўвайшлі такія вядомыя беларускія навукоўцы і дзеячы беларускай справы, як Мікола Савіцкі, Уладзімір Арлоў, Іван Саверчанка, Павел Лойка, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Пётр Краўчанка ды іншыя. Старшынёй ТБШ імя Тарашкевіча быў абраны Генадзь Пятроўскі, які падзяліўся сваімі думкамі наконт развіцця дзейнасці новай арганізацыі:

-- Мы толькі пачынаем і, на маю думку, павінны цяпер надаць галоўную ўвагу тром накірункам.

Першае -- гэта павелічэнне колькасці суполак на месцах, без такой базы і без супрацоўніцтва з імі наша праца не будзе мець сэнсу. Другое -- пашырэнне ўплыву беларускага нацыянальна-культурнага зместу ў сістэме адукацыі на ўсіх узроўнях ад дзіцячых садоў да вышэйшых навучальных устаноў, уключаючы рускамоўныя. І апошняе -- наладжванне ўзаемадзеяння з уладнымі структурамі, выкарыстоўваючы ўсе законныя сродкі і метады, пашырэнне ўплыву на іх з мэтай змяніць або наогул адмяніць неспрыяльныя для развіцця беларускай мовы пастановы і пачаць працаваць разам на карысць Беларусі, г. зн. выхоўваць свядомых годных грамадзян незалежнай дзяржавы Беларусь.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# СІМВАЛ БЕССМЯРОТНАСЦІ




Вяртаецца на Беларусь вясна, а з ёю і штогадовае хрысціянскае свята -- Пасха, якое беларусы называюць Вялікдзень, або Вельканоц, адзначаемае народам у гонар уваскрашэння Ісуса Хрыста.

Кожны год толькі ў час падрыхтоўкі да Пасхі адраджаецца асобны від народнай творчасці -- "пісанкі" (у іншых мясцінах кажуць "маляванкі"), размаляваныя ўзорамі курыныя яйкі. Атэістычная прапаганда прывяла да заняпаду пісанак, сталі часцей фарбаваць яйкі без узораў -- "крашанкі", што, вядома, не магло адмоўна не адбіцца на традыцыях.

Атэістычная прапаганда стрымала, але не здолела зусім знішчыць гэты від народнай творчасці, што можна з упэўненасцю канстатаваць зыходзячы з сучаснага мастацтва Мядзельшчыны.

На Мядзельшчыне, як і па ўсёй рэспубліцы, яйкі фарбуюць у чырвоны колер. Яго атрымліваюць, калі вараць у шалупінні цыбулі, а каб колер быў ярчэйшым, напрыклад, у вёсцы Ляшчынская ў ваду кідаюць жменю зялёных сухіх лісточкаў бярозавага веніка. Людзі сталага ўзросту кажуць, што некалі фарбавалі і ў іншы колер, а на гэта меліся важкія прычыны. Так, калі быў неўраджай на цыбулю, то фарбавалі ў патрусе сена, тады яйкі набывалі руды -- залацісты колер. Здаралася, што не хапала патрухі сена, бо бывала вясна позняя і жывёлу даводзілася карміць саломай са страхі, але яйкі фарбавалі ўсё роўна. Напрыклад, у вёсцы Місуны ў жоўты колер -- кветачкамі лопуху. Калі ў сям'і нехта памёр і не прайшла жалоба, яйкі фарбуюць чарнілам.

На Мядзельшчыне і ў наш час практыкуецца звычайная расфарбоўка -- крашанкі, але сустракаюцца і пісанкі, а пры аздабленні найбольш пашырана аплікацыя. Так, у вёсцы Ляшчынскія Ларыса Папок наносіць узор наступным чынам. Бярэ сырое яйка, у пэўных месцах прыкладае да яго лісточкі ад пятрушкі, паземак, дзікага маркоўніку, а калі Вялікдзень ранні і ляжыць яшчэ снег, то выкарыстоўвае засушаныя зёлкі або лісточкі ад хатніх кветак. Расліна прыкладваецца да яйка і абгортваецца капроновай панчохай. Пасля варкі тое месца, дзе была прыкладзена расліна, застаецца белым, а само яйка -- чырвонае.

Кабетам многіх вёсак знаёмая і такая тэхналогія аздаблення, як васкаванне, але пакуль не ўдалося знайсці спецыяльнае прыстасаванне -- бляшаную леечку з маленькай адтулінкай, куды налівалі гарачы воск, а потым размалёўвалі яйка, і якую можна ўбачыць па вёсках недалёкага Лепельскага раёна.

У вёсках гэтага рэгіёна некалі практыкаваўся спосаб аздаблення пісанак -- гравіраванне: фарбавалі яйка, а потым шпількай ці цвіком драпалі ўзор.

У Будславе можна пачуць, што тут былі знаёмы з такім спосабам аздаблення, як накапванне воскам з дапамогай шпількі, што давала ўзор у выглядзе кропак, з якіх кампанаваліся кругі, ланцужкі, кветкі.

Паволі зжываўся цікавы звычай, што некалі меўся не толькі на Мядзельшчыне, але і па ўсёй рэспубліцы. Так, перад Вялікаднем насыпалі на дно талеркі або міскі зямлі, сеялі пшаніцу, да свята вырастала рунь, у якую клалі размаляваныя яйкі, а наўкола расстаўлялі фігуркі жывёл, спечаныя з цеста.

Лушпінне ад асвячоных у храме яек збіралі і палілі ў печы ці вясной сыпалі ў першую баразну, як садзілі бульбу, бо ніхто з вернікаў не адважваўся парушыць забарону царквы --асвячоная выкідваць у сметнік. Цікавы выпадак расказала настаўніца Таіса Рафеенка з Крывічоў, калі ёй у 70-я гады давялося збіраць чырвонае лушпінне на агародзе ў сметніку, якое выкінула свякроў. Тут ёю кіравала не жаданне захаваць звычай продкаў, а боязь, каб хто не ўбачыў [illegible]данёс, што ў яе хаце такама ел[illegible]цонку.

Ужо адышлі ў гісторыю часы, калі забаранялі беларускім хрысціянам афіцыйн[illegible]яткаваць Пасху. Яйка -- сімвал б[illegible]яроцця. Яго даў чалавецтву Ісус Хрыстос сваім уваскрашэннем. Адметныя словы прывітання ў гэты дзень "Хрыстос уваскрэс", расквечаныя ўзорамі яйкі -- мара кожнага хрысціяніна пра сваё асабістае бессмяроцце праз веру ў Ісуса Хрыста.

**Марыя ЖАБІНСКАЯ.**



## СЛОНІМСКІ ТЭАТР НА ГАСТРОЛЯХ

Ужо сёмы год у Слоніме працуе Беларускі драматычны тэатр. За гэты час артысты тэатра выступалі ў розных кутках Беларусі -- Баранавічах і Пінску, Слуцку і Салігорску, іншых гарадах. У самім горадзе спектаклі праходзяць у памяшканні раённага Дома культуры.

У рэпертуары тэатра -- п'есы У. Галубка "Пісаравы імяніны" і "Каханне з падманам", сучасная п'еса А. Каржаноўскага "Жаніх па перапісцы", п'еса К.Манье "Блэз", а таксама іншыя спектаклі для дарослых і дзяцей. У тэатры падтрымліваецца адносна невялікі кошт білета, каб яго маглі наведваць як мага больш гледачоў. Зараз дзіцячы білет каштуе 2 тысячы рублёў, для дарослых -- 5-6 тысяч.

У бліжэйшых планах тэатра -- паездка на гастролі ў Гродна. Да гэтай падзеі сланімчане рыхтуюцца старанна, бо разумеюць, што глядач у горадзе над Нёманам вельмі разборлівы.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



# "СЬВЯТЛО РАДЗІМЫ" МІКОЛЫ КУПАВЫ




"Сьвятло Радзімы" -- выстава твораў Міколы Купавы, вядомага мастака і грамадскага дзеяча Беларусі. У Вялікай зале Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, дзе месяцца выстава, прадстаўлена больш за 100 твораў графікі. Талент, дадзены Богам, майстэрства, набытае працай, натхненне мастака маюць яскрава нацыянальнае аблічча. Пейзажы, гістарычныя мясціны, партрэты дзеячаў айчыннай гісторыі і культуры, ілюстрацыі да кніг -- знаёмыя, з лёгка пазнаваемымі абрысамі родных абшараў. Творы гэтыя вызначаюцца тонкасцю і высакародствам лініі. Мастацтвазнаўцы адзначаюць рамантызм як характэрную рысу творчасці мастака. І гэтая асаблівасць выяўляецца вельмі да часу, ахвяруючыся справе нацыянальнага адраджэння. У XIX стагоддзі падобную ролю -- захаванне нацыянальнай свядомасці -- адыграла выяўленчае мастацтва ў Польшчы. Успомнім хаця б Яна Матэйку.

Вольга Іпатава ў час адкрыцця выставы ўзгадала, што гадоў 7 таму, рыхтуючы сваю тэлеперадачы, яна знаходзіла выявы нацыянальных герояў старажытнасці не ў музеях, але ў мастакоў, найперш у Купавы. Даведаліся шматлікія прысутныя вернісажа пра многія цікавыя здарэнні ў творчым жыцці мастака. Напрыклад, такое. У самым канцы 80-х на дошцы аб'яваў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута з'явілася фотапаштоўка з радкамі Ф.Багушэвіча пра мову, з тымі самымі, дзе сказана: "Не пакідайце ж мовы нашай, каб не ўмёрлі!", і дзе стаіць подпіс -- Мацей Бурачок. Дык вось, праз дваццаць хвілін гэтая паштоўка была на стале ў рэктара, які тэрмінова склікаў выкладчыкаў і з абурэннем высвятляў, хто гэта напісаў, хто такі гэты Бурачок. Асобу аўтара тады высветліць не ўдалося, але кіраўнік ВНУ вырак: "Не знаю, кто этот Бурячок, но негодяй похуже Солженицына!". Шукаючы аўтара, забыліся пацікавіцца, хто ж павесіў самаробную паштоўку на дошку з аб'явамі. А калі б пацікавіліся, то, можа, і знайшлі б сціплага выкладчыка, Міколу Купаву. Ёсць на выставе прыгожыя ілюстрацыі да кніжкі -- народнай казкі "Сіняя світа налева пашыта". Апроч самастойнай эстэтычнай каштоўнасці гэтыя малюнкі маюць, карыстаючыся тэрмінам музеязнаўцаў, легендуінфармацыю, звязаную з вонкавымі падзеямі. Аказваецца, гадоў колькі таму савецкія цэнзары ўгледзелі ў гэтых выявах варожыя элементы -- бел-чырвона-белы сцяжок, які лунае над вежаю старажытнага горада; персанажаў, якія маюць не гаротна-сялянскі выгляд, і нейкіх падазроных геральдычных сімвалаў. Прыйшлося мастаку наведваць розныя сур'ёзныя інстанцыі ды даваць тлумачэнні. Кніжка з гэтымі ілюстрацыямі, дарэчы, выдадзена на беларускай і ангельскай мовах.

Тысячы нашых суайчыннікаў, самі таго не ведаючы, карыстаюцца творамі мастака ў паўсядзённым жыцці, калі звяртаюцца да паслуг паштовае сувязі. Маркі і канверты з серыі да 200-годдзя вызвольнага паўстання 1794 года -- адна з апошніх прац Купавы ў гэтым накірунку. Эмблема Таварыства беларускае мовы імя Ф.Скарыны -- гэта таксама творчасць мастака. А памятаеце першыя ў вольным продажу паштоўкі і канверты з выяваю "Пагоні"? І гэта Купавы твор.

Адзін з выступоўцаў на адкрыцці выставы слушна адзначыў, што гэты чалавек мае талент не толькі мастака, але педагога і арганізатара. Далёка не кожны здольны толкова арганізаваць справу з удзелам вялікай колькасці людзей. І яшчэ: жыццё Мастака не разыходзіцца з жыццём Грамадзяніна. Гэта асаблівая каштоўнасць -- жыццё і творчасць "для дабра паспалітага".

Выстава прымеркавана да 50-годдзя з дня нараджэння Міколы Купавы. Віншуем і мы нашага суайчынніка і сучасніка!

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Міколы КУПАВЫ з выставы.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 386, Падпісана да друку 8. 4.1996 г.